Ну, а пра Дзевяроўшчыну зусім расказваюць несусвецце. Нібыта Гараська Лантух цягнуў тамацька жаробку на хлеў, штоб травіцу са страхі стравіць.

Не-е-е, брахінька мой, з бабкаўцам не прайдзёць, каб яго падгрэчылі, на зругу сябе не дасць. Вось ніхай ба етый самый я. Нарадзіўся і вырас тута. Нават абразу знёс. «Гамзадзей!» Ад блізкага, так сказаць, чалавека — ад жонкі. Хоць і былой. Але ж вёсцы роднай не здрадзіў.

Я — бабкавец!

Анягож, не...

# ПЕСНЯ І ЯЕ МЕНАВІЦІКІ

*АРСЕН ЛІС*

Жніво!

Каго не кранаі векавечнай традыцыйнасцю яго мройлівыя напевы і найтамлівыя мелодыі.

Таму мы найуважліва паставіліся да самога факта яго існавання, і ў нас знайшлося колькі старонак для разведу жнівовай песні «Дзеўкі спрытна жыта жалі» з яе грацыёзным рытмам і найтанклівымі намёкамі на рыфму. Відаць, кожнаму паразумела наша імкненне запабегнуць няпоўнасць ахопу дзейных асоб твора (на жніво часцей дзевак выходзілі жанкі). Нядзейныя асобы песні — гэта чысты прыём умоўнасці.

Для найлепшай знакамітасці мы возьмем кірунак паводле найбольш слыннай дарогі, а менавіта: пачнем уважней мпрыглядацца да твораў, званых адменнікамі, прабачце, менавіцікамі, або яшчэ з'інакш — па-асобнікамі.

Адшуканы намі першы адменнік, перапрашаем, менавіцік, безумоўна, заслугоўвае на ўвагу сваёй нечаканасцю. Вось паслухайма: «Дзеўкі жыта спрытна жалі». Чутно, як мігатлівыя цені парадку слоў, шчодра пачэрпнутыя ў глыбінях стагоддзяў, даюць шырокі прастор фантазіі. У зьмепеным парадку слоў уладна прабіваецца цудадзейнае пачуванне грунтоўнай высновы.

А хіба зашкодзіць крыху спыніцца на яшчэ адным паасобніку — «Спрытна жалі жыта дзеўкі». Не надасланы раней у Сектар навукаў, ён перахоўваецца намі ў правым кішані і падае на цікаўнасць з пункту зірку атмасферы новых барваў. Пад скальпелем нашага аналізу тут пачынае пялёхацца бязбрэжжа думак і абвеяная паэзіяй знарокавая тэндэнцыйнасць.

Незалішнім будзе нагадаць і трэці менавіцік, сустраканы намі тады, калі мы як найшпарчэй сягалі паводле мала-

прыкметнай спяжынкі з-пад ракі Лань, з асяродку сапраўднага песневага запаведніку. Вось ён: «Жалі дзеўкі жыта спрытна». Заўважым, як добра глядзіцца ў ім знітаваны адлюстровак працы на фоне таго захаванага ледзь-ледзь, за якім маскуецца намітка-сінеча недалёкага кумлення.

Спрыяе належнаму адданню ўвагі паасобнік «Жыта жалі спрытна дзеўкі». Ён вымагае быць прыведзеным цалкам і заняць паноўнае месца пад час патлумачэння, але, на жаль, яшчэ не адшуканы.

Такім чынам, мы пайшлі прама паводле ўладных слядоў эпохі не дзеля хісткага месіва згадак, а ў імя пошуку рэальнага грунту. І застаецца вартай жалю самаўпэўненасць тых, што прытрымліваюцца іншых вызнакаў. А нам з гэтакімі не паводле шляху!..

## ПА НОВЫЯ ВЕРШЫ

*АЛЕГ ЛОЙКА*

Якая шырокая Прыпяці плынь,
Як хвалі разгоніста ходзяць!..

Вуркоча магутнага АНа матор,
Спяшаю на збор матар'ялу.
Унізе Палессе шматфарбны узор
Умелай рукой разаслала.

За Пінай, бач, сеюцца дробна дажджы,
Над Цной сонца хмары прабіла.
Вунь Тураў. Там Тураўскі некалі жыў,
Па імені дзядзька Кірыла.

Віецца істужкаю Шчара-прыток;
Каналы ляглі праз балота.
Авохці мне, злева Кажан-гарадок
Мільгнуў пад крылом самалёта.

Са шчырасцю я прызнаю, без прынук:
Палессе — прывабная штучка.
Там, кажуць, жыве селянін-паляшук,
І жонка ў яго — паляшучка.

## ДЗЯРЗАЙ

*ВАЛЯНЦІН ЛУКША*

Спяваць заўжды мае святое крэда.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Для дзярзанняў
маршрутаў у нас хапае.

Туга? —
гані яе адразу.
Сумненні? —
мужна атрасай.
Ты чуў мой спеў пад грукат часу?
Раз я спяваю, ты —
дзярзай!

Назло віхурам і залевам
З-пад пульхнай коўдры вылязай.
Дзярзай направа і налева,
Ў дзярзаннях —
з дзёрзкасцю дзярзай!

# ДАГАРЫ КАРЭННЕМ

*УЛАДЗІМІР ЛЯПЁШКІН*

У мяне даўно ўжо адцвітанне.
. . . . . . . . . . . . . . .
О, колькі ламала ты дровы!
О, як я варочаў карчы!

Ты ў шчасці з ружовых пялёнак
Не знаеш узроставых меж.
Даўно я адцвіў, як рамонак,
А ты ўсё, як ружа, цвіцеш.

Праз годы не ўцямлю я толькі,
Куды скіраваў наш паром:
Цябе запрашаў я на польку,
А ты вальсавала з Пятром.

Мігценне стракатых стасункаў
Сіберны вятрыска раздзьмуў.
Я прагнуў тваіх пацалункаў,
А ты цалавала Кузьму.

Надзеі пужлівай сініцай
Знікалі пад посвіст крыла.
Я клікаў цябе у сянніцу —
Ты Кліма ў прылазнік вяла.

Няўзнак, нібы дробныя трэскі,
Растрэсліся прывіды чар.
Жадаў я прайсціся па ўзлеску —
Ты цёгла настырна ў гушчар.

І сёння, ўздымаючы бровы,
Глядзіш праз мяне ўдалячынь...
З імпэтам ламала ты дровы,
З натхненнем ірваў я карчы!..

## ЦВЁРДАЯ ВЕРА

И в прошлое порой
Мне страшно оглянуться:
Росли мы далеко —
И в жизни так легко
Могли мы разминуться.

*С. Щипачев. «Тебе»*

Падумаю — і зашчыміць ад болю:
Маглі ж і размінуцца мы з табою.

*П. Макаль. «Гары, маё святло»*

Любая, нястрымнаму імкненню
Трапяткіх пачуццяў не пярэч:
Я за трыццаць год да нараджэння
Марыў аб паэзіі сустрэч.

Хай нягоды ярасна злуюцца,
Мне ісці з табой плячо ў плячо...
— Ты не мог з каханай размінуцца,—
Петруся заверыў Шчыпачоў.

## АПОШНІ СНЕГ

*МІКОЛА МАЛЯЎКА*

На дне душы тваёй, глыбока,
Ён будзе жыць,
Апошні снег.

Вясной нярэдка так бывае,
Што для забавы, для пацех
Зямлю пяшчотна акрывае
Чысцюткі снег, апошні снег.

Ён так душу тваю малодзіць,
Што пакачацца ў ім не грэх;
Нічуць каханню ён не шкодзіць —
Бялюткі снег, апошні снег.

А глянуць сонечныя промні —
Уміг закапае са стрэх.
Дык ты на ўсё жыццё запомні
Апошні снег!..

# ПАТАЕМНАЕ

*УЛАДЗІМІР МЕХАЎ*

Нехай траская падвода стукоча, цеслі нехай адмыслова грукаюць, дальбо думы высокія штурхель ды штурхель мяне трывожліва, жэбы занятку свайго штодзеннага, звышай дадзенага не забываў.

Хто аз есм? Чалавек аз есм. Уладзімеж, отрак Няхамкін, кліканы Мехаў. Барзо нязнатны, худародны вельмі. Аталі ж пацягнула грэшным чынам на небывальшчыну,— занятак дзівачлівы, справу нязнаную — пісаць! Стрымунку не маю. Цалкам захвоціўся. Пачуваю невымерныя здольнасці і майстравітасць у сэнсе артыстычнага слова.

А жыціе зусім непрыкметнае вяду. У гачах палатняных хаджу, як просталюдзін харчуюся. Чорны кургузы кафтанец ды капялюш брылясты тылкі ў мроях бачацца. Тэраз у сне сасніў сябе ў лісавай гарлатнай шапцы з верхам веніцэйскага атласу, у мантыі парчовай. Прыемна сасніў. І Юдзіф, прыгажуня, сэрцам мудрая, вобак. Пад вейкамі цікаўна-заміловаиы позірк. Лёгкія, бы матыльковыя крылцы, ручкі на раме кладзе мне...

Тое ж ёсць сон.

А на справе ад занятку свайго турбацыі зяло вялікія маю. Крытыкі, гіцалі мардатыя, выскаляюцца, нячысцікі, словы непрыемныя кажуць, жывоцікі мала не надрываюць са смяшынкамі сатанінскімі, аспіды. Тое не так ім, змяюкам-незычліўцам, ды гэтае не гэтак. Сапуць сапяткамі, натрэнты, зіркалкамі выведнікі тайных спраў валюптарна зіркаюць. Не токма звягаюць вадцы, абняславіць мамзеры стараюцца.

А знойдзецца кімідзянт хіхіклівы, у пашквілюс, пародыяй нарачоны, цябе ўставіць, бессаромнік, епікграмай, разбойца, праедзецца. Навокруг зубаскальства адно.

Скрыгатанне пашчэннае стрымліваю, гнятлівы страх

перамагаю. Галава ўнурваецца, вушы і тыя заклапочана маршчакамі бяруцца. Пляжу бесурман акрутных такімі словамі, што вымавіць нельга ўголас, у думках пляжу.

Затое салодкай нагародай сабе сказ выдрукованы бачу. Ажно кружыцца заміловaна галава. Удзячнасцю да сябе цешуся. І тое-сёе тыкі намазюкаў. Не адарвешся чытаючы, пунсовею, вачыма агатавымі вільготнею. Стараюся, аддыхвацца часу не маю. Вось і ў леташнім годзе аскаромеўся, кніжкаю разгавеўся. Акцэсія за ўсе мукі несправядлівыя, воку незычліваму наперакор.

Не сумлявайся, і яшчэ будзе. Чытай, праваслаўны люд!..

## ПАСТУХІ

### *ПАВЕЛ МІСЬКО*

Хапіла ў старшыні рыхтобы: папаўгаворваў Янку на розныя пасады, нават намеснікам сваім рабіў. Але той адно жадом зажадаў — у пастухі.

Нарэшце праўленне ўважыла.

— У нашым дзеле глаўнае што? — пытаўся ў одуме Янка і тут жа адказваў: — Глядзі, каб каровы не трывожылі адна адну рагамі, не дапусціліся да порчы. Не варта пудзіць без патрэбы, нерваваць, але трэба тупаць, каб не забывалі, што пастух ёсць. І канешне ж — накарміць.

Да пастухоўства Янка адносіўся сур'ёзна. Лез са статкам напрапалую туды, дзе ёсць травы на адзін гам. Любіў мо прапусціцца за высыпанку, хоць ведаў, што бычаняты могуць гізануць, паставіўшы прутам хвасты, а каровы лаўганўць языкамі, ловячы каласы. Блізка падпускаўся Янка да канюшыны, але совеслівасці і атвецсцвеннасці не губляў. Цяляты пры ім сталі што таўсмацікі, а каровы малака патроілі.

Чараду Янка глядзеў абярэжліва, то забягаў наперад, то хапатліва калываўся за кароўмі і цялятмі, бо ведаў: на таго таўсцяля Сідара — памочніка — усядно не пакладзешся. Сідару хоць жару падсып у залошчаныя брызянтовыя штаны — не махнецца за брыклівым бычанком.

— От неўдач, каб цябе агонь высмаліў,— як не з сябе выходзіў Янка.— Седню саб'еш на біштэк, гэтак пасучы, будзеш хадзіць раскаракаю. Хоць дзе табе хадзіць. Толькі і думаеш пакачацца.

Сідар і сапраўды ніц-нічагенька не думаў.

— Лавай мамент! — гаварыў не раз і сапраўды лаваў. Круць-верць — і залёг пад кустом.

— Не ўзбіцца мне на добрага памочніка,— бедаваў Янка і накідваўся на Сідара: — Бэнсь ты ў прыполе на

маё няшчасце, страхавідла выкшталцонае, кловун жаўта-штанны.

Але колькі Янка ні туркаў, упічунак не дапамагаў. Сідар слухаў зацухмоленыя кампліменты і не зыбкаўся. Буркне штось праз нежывыя губы і мецінца ў цянёк.

Затое ж як радуецца Янка, калі статак прыхопіцца скубсці духмяную сакавітую шчэць маладой атаўкі. Каровы хапаюць напоўніцу, жвялямі, бычанёткі стараюцца, аж сапуць. Тады неяк праходзіць злосць, душу апаноўваюць салодкія хвалюючыя мроі. У такую хвіліну любіць Янка выбраць сушэйшую купіну, прысесці і дастаць з палявой сумкі неразлучны свой спадарожнік — часопіс «Пытанні рэлігіі і атэізму».

## МАЛАДЗЕЧНА

*РЫГОР НЯХАЙ*

Пачаплю мяшок заплечны
І гайда у Маладзечна
Усё трушком, трушком.
Пападзецца дзядзька стрэчны:
— Дзе тут, браце, Маладзечна?
— Вунь, за бугарком,
Эх, вунь за бугарком.

Пралягла праз Маладзечна
Шлях-дарога бесканечна
Прама на Смаргонь.
— Маладзечна, Маладзечна! —
Льецца песенька, бясспрэчна,
Песенька-агонь,
Эх, песенька-агонь...

Маладзечна, Маладзечна,
Рад сустрэчы я сардэчнай,
Эх, ды што й казаць...
Маладзечна, Маладзечна,
Пасялюся ў ім, канечне,
Год праз сорак пяць,
Эх, год праз сорак пяць!..

# У КАМЛЯХ

## *СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК*

Звужаюцца цясней
                    гадоў кругі
вакол камля надзей.

. . . . . . . . . . . . . . .

Не ведаю, а ці кране прадвесень
камлістае ў зазубрынах жыццё?

Камель жыцця, камель надзеі,
пачуццяў важкія камлі...
Засцілы прысмеркаў радзеюць,
як я камлюю па зямлі.

Я счуў: на зверхнасці галоўнай
камлістым сном буяе хмель,
таму злагоднена, мілоўна
нясу успомненняў камель.

Бы ткаль,
            з пісацкім правазваннем
сябе звязаўшы вузляком,
хаджу на словапаляванне
з дубовым гладкім камлюком.

Ды нешчадлівымі вякамі
на спюжны выведзены шлях,
гатоў дубасіць камлюкамі
па спаконвечнасці камлях.

## НА ЖАЛЬ

*МІХАСЬ ПАРАХНЕВІЧ*

Ёсць глыбіня, ёсць рыфы-мелі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Красунь нямала ёсць на свеце.

Штодня я снедаю на ранку,
Ў абед за стол саджуся зноў.
Але з упартасцю каханкі
Ганю напрэч нішчымнасць слоў.

Пад філасофскія аблокі
Душой сягаю дзень пры дні.
Пячы аладкі дум высокіх
Люблю на плыткай глыбіні.

Даўно мне хочацца прыкмеціць
Цікаўны позірк у акне...
Красунь нямала ёсць на свеце,
Ды ўсе, на жаль,— не для мяне.

## ВЕРШЫ І ЯКАР

*ПАЎЛЮК ПРАНУЗА*

Чалавек — невычэрпная рэчка...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чалавек — брат прыроды і сын.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Лягчэй у мора кінуць якар,
Чым выцягнуць яго з вады.

Магчыма, нехта усумніцца
У шчырай праўдзе важкіх слоў,
Ды мне даступны таямніцы
Глыбінных думак і высноў.

Хто спасцігаў мае напевы,
Той зразумець быў вельмі рад,
Што чалавек — рачулка, дрэва,
Паветра, зорка, вадапад.

Сягоння зноў я ў смазе плённай
Да трапяткіх радкоў прынік.
А збоч біёграф —
мой натхнёна
Чытае новы чарнавік.

Не трэба скідкі мне ніякай,
Магу я з годнасцю сказаць:
Цяжэй у мора кінуць якар,
Чым верш пра якар напісаць.

# ЛЯСНІК

*АЛЯКСЕЙ ПЫСІН*

**І чаму не стаў я лесніком.**

Мая планіда небагатая,
У ёй здабыткаў менш, чым страт.
Яна у чымсьці вінаватая,
І я у нечым вінават.

Агнямі ярка свеціць вуліца,
І да бярозы клён прынік.
А сэрца сцятае хвалюецца,
Што я паэт, а не ляснік.

Я ў лес хадзіў бы праз аўсянішча,
Сабе б самому быў суддзя.
І паслязаўтра б, як і сяннячы,
Ў аўсе ганяў бы медзвядзя.

А так — скігоча птушка чаіца
Ў мядовай дымцы над ракой.
Яе трывога пачынаецца,
Дзе мой канчаецца спакой.



## ЯК Я КАХАЎ

*МІХАСЬ ПЯНКРАТ*

Было гэта вясной. Было не калі-небудзь, а гады два таму назад, калі я канчаў чацвёрты клас. За першаю партай сядзела яна — кволенькая трысцінка па імені... Але хіба важна імя? Усё і так ясна. Светлыя колцы валасоў каля ружовых вушак, а калі абарочвалася — цёмная сіньва ледзь прыплюшчаных і крышачку сумных вачэй. Гэта па ёй уздыхаў я пад посвіст салаўёў і кумканне жаб, па ёй трымцелі напятыя струны ў сэрцы маім, і песня рвалася

хвалюючая, клікала ў даль нязведаную, пуцявінай вяла няпройдзенай.

Забрала яна маё сэрца. А сваё аддаць... Эх, ды што там! Хіба ж не людзі вы, не разумееце? Іду я, чалавек-адзінка, са сваім аднабокім каханнем, і нібыта мне свет завязаў хто, полагам квяцістым завесіў. Хвалююся, а ў грудзях то холадна, то наадварот. Думкі блукаюць далёка-далёка і ўсё астатняе. Дзе буйная кіпень майго юнацтва?

Адшумела яно тапалінае.

Адцвіло калінай надрэчнаю.

Ясенем разгалістым адшаптала.

Адзвінела жаўранкамі.

Адышло!

Не будзе заўтра і паслязаўтра. Лёс мой шчарбаты, шчасце з трэшчынкаю босым пайшло кудысьці па калючых верасах міма плакучай івы-вярбіны. Луг — без канца-краю і песня — прывабная, хвалюючая, кліча, спяшаецца. Трымцяць у душы якіясь струны, сумуюць аб нечым далёкім і няясным.

Было гэта два гады таму назад.

Два гады!..

# ПАЎНАКРОЎНАСЦЬ

*ЯЎГЕН РАДКЕВІЧ*

Бясспрэчна, Эльдар жыў паўнакроўным жыццём. Ён умеў так пераключаць сябе, што асабістае не перашкаджала грамадскаму, а апошняе не ўмешвалася ў інтымнае.

Раніцой, выпіўшы шклянку кавы, ён спяшаўся на работу. Ля дзвярэй лабараторыі яго твар натхнёна асвятляўся нецярплівым чаканнем сустрэчы з паліўным бакам і крывашыпнай камерай. Трывожна-радасна пераступаў ён парог. Усё звычайнае і будзённае заставалася там, за дзвярыма, а тут, у царстве прыбораў і рухавікоў, панаваў святочны настрой.

Невымерная хваля радасці авалодвала ўсёй Эльдаравай істотай. З заплюшчанымі ад шчасця вачыма ўдыхаў ён салодкі масляны туман, які плыў ад сумесеўтваральніка да катушкі запальвання.

Стрымліваючы дыханне, хлопец пяшчотна праціраў карбюратар, выслухоўваў генератар, аглядаў кандэнсатар, абдзьмухваў акумулятар, гладзіў каларызатар, абдымаў трансфарматар. Пасля Эльдар гадзінамі не адыходзіў ад выпрабавальнага стэнда, вызначаючы кірунак альфа-часціц у напрамку да каленчатага вала. Яшчэ на мінулым тыдні ён вызначыў памеры зазораў у рубашцы цыліндра і ступень ціску на педаль тормаза пры асінхронным гідрапрыводзе.

Сёння ён увесь дзень здымаў загадкавую і прывабную карэкцыю хуткасці крывашыпна-шатунных механізмаў. Позірк хлопца выпраменьваў чыстую радасць быцця.

Мімаходзь, але прывычна зірнуў на гадзіннік. Заставалася пяць хвілін работы. Пара канчаць. У думках, як заўсёды, склаўся план на заўтра: маятнікавыя падвескі да гідрапаўкомпаса.

З лабараторыі Эльдар кіраваўся ў буфет перакусіць.

Цяпер ён даваў волю сардэчным памкненням, каб не адставаць ад часу, адчуваць дынамізм і мабільнасць жыцця і сваю ўсебаковую развітасць.

Ля прахадной званіў Эле. Яна, як звычайна, чакала яго. Здавалася, бачыў у трубцы загадкава-прыязны позірк і пакорліва-смутны твар.

Эла сустракала ціхмяна і сарамяжліва. Пры яе відзе ў сэрцы Эльдара разлівалася нясцерпна-салодкая хваля і пачынала кружыцца галава. Звабная ў сваёй грэшнасці жанчына горача тулілася да хлопца сваім хвалююча-пяшчотным целам.

Эльдара па-сапраўднаму радавала дзесяцігадовая Эліна дачка. Як наш сучаснік ён разумеў неабходнасць павелічэння насельніцтва. Але яго кідала ў дрыжыкі важданіна з пялёнкамі, слёзы, таблеткі, мікстуры, недасыпанні. А трэцякласніцы ўсё гэта без патрэбы.

Намілаваўшыся, Эльдар спяшаўся дамоў, каб выспацца і раніцою зноў адчуць зладжанае дыханне тэхнікі.

# НА ШЛЯХАХ ПАМГЛЁНАСЦІ

*АЛЕСЬ РАЗАНАЎ*

Пакідаючы гнёзды, працягваем гнёзды,
сумяшчае вытокі і вусці вада.
Ды ў завершаны круг не ўмяшчаецца роздум
і хада наўздагад,
да ўзыходу хада.

Наўздагон сваім крокам
я крочыста крочу
міма тых кацярынінскіх зніклых бяроз,
дзе задумнасць задум
задуменна шапоча
і ўсяісная існасць выходзіць на крос.

У глыбіні вышынь
неспасцігла ныраю,
на вышыні глыбінь
узыходжу, як маг.
Мне насустрач выдзьмухвае рэха адчаю
ведзьмаваты туман,
аж залее ў вачах.

Напінаецца цяж,
несутрымны,
як лазер,
над свядомасцю шчырма шчыруе шчырэц,
бо сарочыя гнёзды
адзін я аблазіў —
выкшталцоных разваг валадар і тварэц.

## УСЁ Ў МІНУЛЫМ

*ВІКТАР РАКАЎ*

Тут маленства, пуп наш тут зарыты.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Любая, навек я адпалаў.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Чытаць не буду... Пісьмаў не пішы...

У брамку стук. Напэўна, паштальён
З яго газетна-марачнай турботай.
Звініць, як не парвецца, тэлефон,
А мне ўставаць з тапчана неахвота.

Ад страсных слоў я не прыйду ў экстаз.
Мінула юнь; пара схадзіць з арбіты.
Мне часта сніцца Сенькаў пералаз:
Пад ім мой пуп, мой родны пуп зарыты.

Прысуд прыроды словам не скрышыць.
З каханнем ты мне ў сэрца не стучыся
І пісьмаў палкіх болей не пішы,
Бо я чытаць тры дні як развучыўся.

## НА КАСМІЧНЫМ СПАТКАННІ

### *МІХАСЬ РУДКОЎСКІ*

Рву звычных дзён зачараваны круг.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

У царства чыстай цішыні, Марыя,
пакліч мяне і забяры мяне.

Прэч, звыкласць вымярэнняў — грамы, граны,
Чырвонцы, метры, тыдні, тыражы!
Я цераз юнь касмічных акіянаў
Трымаю шлях да квантавай мяжы.

Няхай буслы нясуць дарункі іншым,
А я ў чаканні векавечных змен
Забуду ўсё, што маляваў Куінджы
І высякаў няўрымслівы Радэн.

Пад страсны кліч твой я праарву імкліва
Нязнанасці крутую далячынь,
Каб цеплынёй грудзей тваіх пужлівых
Сваю грудную клетку апячы.

На зорным ветры марсавай парою
Сляза тваёй нявіннасці збяжыць;
Ты сарамліва прагнеш, каб са мною
Другі мядовы месяц перажыць.

Спатканняў слодыч зведаўшы ў Сусвеце,
Ты будзеш вечна верыць толькі ў іх...
Твае маладзікі яшчэ пасвецяць,
І папяюць пяшчотна салаўі!..

# ГЛЫБІНІ ТАЯМНІЦ

## *АЛЯКСЕЙ РУСЕЦКІ*

Гармонію вуглоў і граняў
З лінейкай вымяраў я сам.

Загадкамі напоўнены Сусвет.
Праз глыбіню вякоў да часу дрэмле
У кожным амфібрахіі сакрэт,
За кожнаю нейтрынай тэарэма.

Цагліну возьмеш — здэцца, для навук
Ніякіх таямніц. А разабрацца —
Шэсць плоскасцей,
Вуглоў аж восем штук
І граней роўна-хораша дванаццаць.

Дарогай пальцы цісне чаравік —
Майстрам праклёны шлеш за гарцам гарнец.
Кубічны ж корань з пі плюс мінус ікс
Дае малюнак браку ў чабатарні.

Адкрыўшы сінус бур і джоуль сцюж,
Прайшоўшы гулка наледзі і рыфы,
Гатоў смыкнуць я новы капялюш
Перад каханнем квазера і рыфмы.

# КАХАННЕ Ў ДАРОЗЕ

*АЛЕСЬ САВІЦКІ*

Толькі сёння выбраўся, нарэшце, Прахор у Янаўку — занесці Піліпу рубанак, што браў у мінулым годзе.

Мінуўшы з кіламетр, амаль палову шляху, пагледзеў ён жанчыну, якая ішла насустрач. Гэта была Аўдуля. Яна кіравалася ў Прахораву вёску Цітаўку пазычыць бязмена.

Прахор не ведаў Аўдулі, але яго ашаламіў позірк жанчыны, задуменны і крыху тужлівы. Сінія пяшчотныя вочы працялі яго наскрозь, а дрогкая сетка падпудраных мукой веяў адразу ўзяла ў палон. Гулка затахцела сэрца.

Аўдуля ў сваю чаргу скаланулася, убачыўшы незнаёмца. Яго сцямнелыя, завалочаныя смугою вочы ў момант авалодалі ўсёй яе істотаю.

Яшчэ не дайшоўшы крокаў пяць, Прахор адчуў сваю поўную еднасць з жанчынай.

— Добры дзень, мая адзіная! — лутнуўся ён да Аўдулі.

Разгубленая радасць непатлумачана дугнула яе бровы.

— Дзень добры, шчасцейка маё! — адказала яна, і ўсмешка лягла на яе губы. Вочы зрабіліся ласкавыя, але патрабавальныя.

— Як я чакаў гэтага імгнення! — не мог саўладаць са сваімі пачуццямі Прахор.

— Дзе менш слоў, там ёсць любоў,— па-незямному даверлівым пошапкам прадэкламавала Аўдуля і пагладзіла яму рукі. Патрабавальнасць яе бліскучых губ пазбавіла закаханага рэштак сілы.

Прахор і сам рэльефна разумеў нікчэмнасць сваіх слоў. Ён пачціва і цнатліва прыгарнуў да сябе жанчыну, самую цудоўную, дзівосную і непаўторную. Яе рукі цупка звіліся на Прахоравай шыі. Аўдуля пругка, адрывіста пацалавала Прахора ў губы, мякка і падатліва сцішылася і ласкава паклала яму на пакатае плячо галаву.

— Каханая...

Але Аўдуля не дазволіла гаварыць. Доўгім пацалункам яна замкнула яму вусны. Прахор аж захліпнуўся.

Праз які час Аўдуля падняла галаву, глянула аддана і прытоена. У вясёлых ласкавых вачах адбіліся ўсе колеры і гукі гэтага дня.

І зноў яна прыпала да Прахоравых губ. Толькі цяпер, знямогшыся ў шчасці, цалавала квола, асцярожліва. Прахора паліла яе агнявая пяшчота.

— Авой,— глянуўшы няўцям на паніжэлае сонца, войкнуў Прахор і разняў абоймы.— Спазнюся ў Янаўку.

Зніцелыя ў той жа міг дрыготлівыя Аўдуліны вусны дзіўна выгнуліся і замкнуліся. Вачніцы тарганула шэрань халадэчы і чарнізна расстанку. Дрогка мігатнулі веі. Стаяла сцішаная, маўклівая, быццам згубленая. Толькі ўздыхнула спустошана, з прыглушаным стогнам.

Ні словам не абазваўшыся, павярнулася і пайшла. Сіратліва патумкалі крокі.

Зайшло сонца. Думная сінеча лесу блякла ў прачуленым мроіве, і ў ім паволі раставала зыбка зменшаная жаночая постаць.

На небе высыпала гарачае зорнае сяйво.

А Прахор усё стаяў і якатаў:

— Ай-я-яй, як жа я не спытаў яе імя!..

# МЯЦЕЖНІК

*ЮРАСЬ СВІРКА*

Цяпер
Я кірую паўстаннем
Сваёй адзінокай душы.

Асіна шаптала з усхліпам,
Натруджана ясень рыпеў.
Ты слухала прагна пад ліпай
Мой вабны яловы напеў.

Туман асядаў над ракою,
Каханне лунала наўкруг.
Я мужна выходзіў з табою
На ціхі рамонкавы луг.

А потым?
О, думы! О, планы!
Нашто былі стрэчы, нашто?
Я ехаў у свет на буланым,
А ты перасела ў аўто.

За нейкай таемнай мяжою
Ты знікла, як леташні сон.
Цяпер я з мяцежнай душою
Нікому не здамся ў палон.



## НЯЗБЫТНЫЯ МАРЫ

*РЫГОР СЕМАШКЕВІЧ*

Сёння, пабраўшыся моцна за рукі,
Молада-вечныя хвоі стаяць.

Што назаўсёды запала мне ў леце? —
Мякка-асфальтава-чорная гладзь...
Вельмі б хацелася мне на праспекце
Молада-вечныя хвоі саджаць.

Стаў бы прывольна, раскінуўшы шаты,
Лес ля паштамта, вялізманы лес!
Даўні знаёмы мой, Мішка Касматы,
Там бы ўладарна на елку узлез.

Стала б сцяной Камароўская негаць,
Снег бы засыпаў асфальтную гладзь.
Там бы мне з Рэксам на лыжах пабегаць,
Зайцаў, вавёрак, ваўкоў паганяць.

Ў пошуме бору, да болю знаёмым,
Я б ад спакусы стрымацца не змог:
Дзён за дванаццаць ля радыёдома
Я б леснічоўку адгрохаў дай бог!..

Мары, надзеі... На што спадзявацца?..
Ў горадзе хвоі саджаць не з рукі!
Прыйдзецца воляй-няволяй падацца
Да дзядзькі Мікодыма ў падлеснікі...



## НЕПАЖАДАНЫЯ ТУРБОТЫ

*Пераклад з венерыянскай*

*ЯЗЭП СЕМЯЖОН*

Ціхуткі шолах ля акна.
— Хто там? — збялеў Язэп.
— Ды гэта ж я прыйшла, вясна.
— Чаго? — ўскіпеў Язэп.

— Каханне поўніць мне душу.
— Няхай,— злуе Язэп.
— Тваёй увагі я прашу.
— Дармо! — адсек Язэп.

# НАДЗЕЙНАЯ ЗАМЕНА

*ЯНКА СІПАКОЎ*

Ах, мілы конь, ах, мілы косю,
Прабач за даўні здзек. Даруй,
Што запрагаў цябе ў калёсы,
Што й сёння на табе ару.

Мой любы косю, мой Буланы!
Праз столькі доўгіх лет і зім
Нарэшце здзейсніліся планы:
Я замяню цябе ва ўсім.

Пачну са сціпласцю бязгрэшнай
Хадзіць зацугленым заўжды.
І будзеш ты мяне няспешна
Вадзіць *у поўдзень, да вады.*

Падпуззе цяж не будзе церці,
Шляю дакладна падганю,
Перараблю да плеч па мерцы
Хамут не ўдоўж, а ў шырыню.

Нідзе ў мажары не прыстану,
Паўнюткі кніжны воз скрану;
Не горш цябе цягаць я стану
Акучнік, плуг і барану.

Даўно люляю меркаванне,
Як наймацней сцягнуць дугу...
З адным бяда: твайго іржання
Ніяк спасцігнуць не магу.

# НАТХНЕННЕ

*УЛАДЗІМІР СКАРЫНКІН*

Заўважаю,
што такім узнёслым
Я сябе
не адчуваў даўно.

Сёння галкі з радасным усхліпам
Цогаюць,
нібы ад першаку.
Вераб'і спраўляюць баль на ліпах,
Верашчыць сарока ў лазняку.

Дзьмуты певень з грабянём агністым
Меціць шлях бясстрашна праз быльнёг;
Цэлы дзень у сажалцы вячыстай
Плешчацца заўзята качанё.

І гусак, віхляючы ў паклонах,
Ў ярыну спяшае за гумно...
Заўважаю,
што такім натхнёным
Я сябе не адчуваў даўно.

# МАЎЧЫ...

*ЯНКА СКРЫГАН*

(Звышзямная трагедыя ў 97 абручах)

## АБРУЧ 1

Што такое радасць? Пэўна, далёка не кожны возьмецца адказваць на гэта пытанне. І сапраўды. Аднаму — назбіраў кошык казлякоў, і радасць дзяваць некуды. А другі на трыццацікапеечную аблігацыю адхопіць «Волгу» і ходзіць хмара-хмарай: гаража не выйграў. Той чатыры змены падрад не вылазіў з кабіны эскаватара, усё цела нібы свінцом наліта, але катлаван для падмурка новай лазні гатоў у тэрмін. А гэта дванаццаць маланак да сукенкі прышыла і надзьмулася — а як жа, на трынаццатую месца не знаходзіцца.

*Сёння ў яго радасць*

Ён (уваходзіць у пакой). Віншуй мяне, любая мая, сонейка маё ненаглядная. Сёння мне, нарэшце, удалося-такі дабрацца ў мясцкоме да білетаў на новую п'есу Відука. Каб ты бачыла, што тварылася. Душыліся, лезлі ледзь не па галовах. Паглядзі, застаўся зусім без гузікаў. Затое білеты ў кішэні. Во яны! (З выглядам пераможцы трасе білетамі.)

Яна. Які ты ў мяне харошы. Падыдзі, мой кіска, я цябе буські.

*(Святло гасне.)*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## АБРУЧ 48

Вунь яно што. Як загаварыў! Пачакайце ж, яна яму — адпомсціць. За несправядлівасць, за крыўды, за хлусню. Нельга ж цярпець гэткага. І хто б падумаў.

Я н а. Ты згнюсіў усё святое ў душы маёй, растаптаў пачуцці мае, мяне высушыў на тонкую былінку. Я на цябе малілася, а ты... што ты зрабіў? Ты заставаўся з ёю, з той памаўзлівай, а мне хлусіў, што цябе затрымлівае дырэктар падлічваць рахункі. Як жа мне жыць далей?

Я н о. Ма-а-ма, ням-ням, г-ы-ы...

Ё н. Вунь чымся мальбоны чытаць, лепш бы дзіця накарміла. (Адзявае макінтош.)

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

АБРУЧ 64

Як бяжыць час! Здаецца, учора **ён** пераносіў яе праз ручай, глядзеў на яе і наглядзецца не мог, цалаваў і не мог адарвацца, а сёння...

Я н о. Чаму гэта татка пяты дзень не прыходзіць дадому? Я ўжо тры літары ўмею пісаць. А на палачках аж да дзесяці лічу. Навошта мама гаварыла: «Калі ты гэтакі, дык не прыходзь». Які ж ён гэтакі? Татка адно дзвярыма груккнуў. А мама плакала. Ці прынясе татка цукерак?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

АБРУЧ 97

М ы... а таму, э-э-э, няхай адыдуць у нябыт, так сказаць, спрэчкі і папрокі. І няхай, гэта самае, у вашым утульным доме пануюць мір і згода, няхай, гм-гм, ніколі не гаснуць на вашых тварах, як іх, шчаслівыя ўсмешкі. Падайце ж, гэта значыць, адзін другому рукі згоды, шырэй раскрыйце абдымкі і забудзьце, адным словам, што калісьці паміж вамі прамільгнуў, э-э-э, здрадлівы цень недаверу. А мы, значыцца, мясцком, у сваю чаргу...

Я н ы (перабіваючы адно другое і ўсхліпваючы). Дык гэта ж ён... Дык тое ж яна... Але няхай будзе па тым... Хопіць ужо гэтага...

Паволі апускаецца заслонка.

Тупат. Воплескі. Воклічы: «Аўтара! Аўтара!»

Аўтар уцякае праз акно.

# НЕЗАБЫЎНАЕ

*АЛЯКСЕЙ СЛЕСАРЭНКА*

Як сягоння памятаецца мне той вясновы дзень перад вялікаднем. Лагоднае сонца сакавіта імправізавала абагрэў усёй зямлі. З незвычайным цярпеннем глядзела яно ў кожны куточак, каб найхутчэй выкурыць астаткі зімы. Здаецца, з асаблівым замілаваннем, неяк па-зямляцку плыло яно ў той дзень па-над вулкамі майго роднага горада.

З ценем глыбокай задуменнасці на твары крочыў я, не спяшаючыся, ад Лясной вуліцы ў напрамку да Вучонай і раптам — вачам сваім не веру. Стаіць навідавоку дзядзька Якуб і аб чымсьці — хто ведае! — ажыўлена размаўляе з нейкім дзедам.

Калі я, затаіўшы дыханне, праходзіў міма, яны развіталіся і дзядзька Якуб глухаватым голасам, вельмі шчыра і цёпла сказаў: «Да пабачэння».

Гэтае «да пабачэння» мяне надзвычай уразіла, бо яно было сказана ў маёй прысутнасці, а гэта значыць амаль што і да мяне. Я так расхваляваўся, што доўга не мог прыйсці ў сябе, і ачомаўся, бадай, праз гадзіну. Дзядзькі Якуба ўжо не было відаць. Пачутае з яго вуснаў «да пабачэння» натхніла мяне на будучыя здзяйсненні. Яно і сёння гучыць мне ўвушшу незямной музыкай, дапамагаючы жыць і тварыць.

## ДЗЯКУЙ БОГУ

*АЛЕСЬ СТАВЕР*

Я слаўлю вас,
пяю вам гімн хвалебны,
Каханкі незабыўныя мае.

Праходзіць час. А я, як сёння, помню
І перадам нашчадкам праз вякі:
Я ў тры гады сваёй суседцы Домне
Грымзоліў вершаваныя радкі.

Я да былога памяццю прыкуты,
Тут ні прыбавіць нельга, ні адняць.
Мы ў той жа год з равесніцай Аксютай
Хадзілі жаб у сажалцы ганяць.

Пад восень неяк еў я хлеб са здорам,
І хоць было шкада, нашто хлусіць,
Ад скібы той Тадоравай Хадоры
Я два разы дазволіў адкусіць.

У забыцці нікога не пакіну,
Мо хто ўсміхнецца з'едліва — няхай.
Так, я ў шэсць год гарэзніцу Куліну
Штурхаў пад бок:
— Кахай мяне, кахай!

Апеў я ўсё — сутонні і світанкі,
Сняжынак лёт і водар росных траў...
Каб не было вас, любыя каханкі,
Пра што б я верш чарговы напісаў?!.

## ПЕРАМЕНА ПРАФЕСІІ

*МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ*

Стану мокрым граковым пяром.

Кім бы стаць?
Прагну страсна прафзмен.
Надакучыла швэндаць паэтам.
Толькі знаеш актаву, катрэн,
Рыфмы, рытмы зімою і летам.

Можа, варта зрабіцца вядром?
Мо чупрынаю хвата-гулякі?
Не!
Найлепей я стану пяром
У хвасце вераб'я-забіякі.

— Чык-чырык! —
ён мяне панясе.
— Чык-чырык! —
па падстрэшшах, паддашках.
Вераб'іху за чуб патрасе,
А ў мурлыкіны кіпці не дасца.

## ПРАЗ СТЫХІІ

*МІХАСЬ СТРЫГАЛЕЎ*

Так, лійцеся, дажджы! Сава, крычы!
У змроку, бліскаўкі, сігайце штоначы!
У свет бязмежны гэты бег вядзе —
Наросхрыст паліто, клубы ў вадзе...

Кашулю — прэч! Да д'ябла паліто!
Мяне стрымаць не здолее ніхто!
Разгон бяру нястрымны і круты
І за сабой падпальваю масты.

Усцелюць хмары неба сіняву —
Схаваю ўміг пад паху галаву,
Засуну ёй у рот калашыну,
Няхай маўчыць, бы злеглая ў труну.

Па твані астэроідам лячу,
Сармат мільгае спераду ўваччу,
А справа каранасты печанег
За ведзьмаю прыспешвае свой бег.
Вакол жуда, грымоты, роспач, жах,
Галосяць здані дзіка на крыжах.
Адчайны гвалт. Смурод. Вада — сцяной!
Праз момант хвалі плешчуць нада мной.
Насустрач вадзянік з віллём крывым...

З маіх радкоў не выплывеш жывым!

## СУР'ЁЗНАЕ ПАПЯРЭДЖАННЕ

*НІНА ТАРАС*

**Хацела сцежкай крочыць гладкай,**
**А спатыкнулася аб пень.**

Прыміце ўсе наказ мой строгі:
Ісці — не песні гучна пець.
Не ўсюды роўныя дарогі,
Куды ні пойдзеце,
Пад ногі
Патрэбна ўважліва глядзець.

## НАЎСКАПЫТА

*РАМАН ТАРМОЛА*

Коні,
за вас мне сорамна.

Што ж гэта, коні, вы робіце?
Шыі крыж-накрыж — і сталі.
Колькі вы часу гробіце! —
На працу махнулі хвастамі.

Трактар раве надрывіста,
Дыша аўто натужна.
Дык трасяніце грывамі,
Мышцы вузлом натужце.

Вунь хамуты ралейныя,
Побач вісяць вазавыя.
Шлеі скрозь колцамі ўсеяны,
Лямцы не муляюць шыі.

Хіба не шчасце з мажараю
Ўдалеч алюрам імчацца,
Каб на ухабах, выжарынах
Колы сыходзілі плачам.

З вамі гатовы я сілаю
Сваёю памерыцца звонкай:
З самай грывастай кабылаю
Ўлегчы наперагонкі!..

## У ЧАБОРЫ ЛІСТАВЕЮ

*НЭЛІ ТУЛУПАВА*

Чабор... Я ў аптэцы цябе купіла —
Як на сэрца сваё наступіла.

. . . . . . . . . . . . .

Не ў вырай заакіянны,
А ў Кудыневядома.

Скора жніво... А ў аптэцы — чабор.
Граю грачынага сіняе рэха.
Веру: жаданням сваім насупор
Ты мяне злева на Гнедым аб'ехаў.

Цень валадарства спяшае за мной.
Я ў ліставеі не стану Данаяй.
Круг, што народжаны ў скрусе зямной,
Нізка над лозамі чараў лунае.

Прагай прывольнасці сцішу душу.
Ў смазе няўтольнай парэпалі пяткі.
Роздум дуброў у пасаг папрашу:
Хай ён акрые ад шэрані ўсмятку.

Годзе чакаць!
Ці не лепш адгарнуць
Вечар ад раніцы?
Дужасць ад стомы?..
Думкі шырокаю плынню імкнуць,
Толькі пакуль што...
ў Кудыневядома.

## ІМГНЕННІ

*МІКОЛА ФЕДЗЮКОВІЧ*

Кружы,
маёй любові матылёк.

. . . . . . . . . . . . . . .

Стаю —
як снежны дэман —
ля акна.

Ці ты індуска, ці зулуска...
Глядзіць знямелы аркестрант.
У сініх кропках млее блузка,
У чорных косах ззяе бант.

Калі ж праходзіць утрапенне
І бубен глушыць цішыню,
Гару я ў танцы прыцягнення,
Як ля свяшчэннага агню.

Мяцежны роскрут закаханых
Вятрам завейным не спыніць.
На ўзроўні сэрцаў апантана
Вяжу я стрышчаную ніць.

Але крычыць нясцерпна-нема
Твая світальная рука...
Глынуў імгненна снежны дэман
Маёй любові матылька!..

# МАЕ ДУМКІ

*МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ*

**Я тут чытаю думкі ўласныя.**

Мне штосьці рэчка шэпча ласкава,
А я, аж зелена ўваччу,
Сяджу, чытаю думкі ўласныя
І іншых слухаць не хачу.

Хай кліча ўладна сонца краснае —
Не час мне з хаты вылязаць,
Бо трэба спешна думкі ўласныя
Ва ўласны сшытак запісаць.

## КРУТЛЯЙ!

### *КАСТУСЬ ЦВІРКА*

У руках маіх пуга сырцовая:
я пасвіць каровы ганю.
(Што з таго, што на імя маё
панавешана тытулаў розных вучоных.)
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Журавель — у зары.
Старыя засаўкі ў лопуху.

Мне б штодзень дратаванкай
па быдлячых азадках
шрайбаваць
(не папера-шурпаценне — шоўк).
Радкі-пісягі там выводзяцца гладка
і рыфмуюцца звонка:
шчоўк, шчоўк.

Кожны лопух бяру
на завал аж да кораня
і кажу усур'ёз
(не для рысавання):
я надта баюся,
каб новы мой зборнік
не чыталі Валя,
Зіна,
Алік
і Яня.

Заўсёды дзіўлюся я родных умельству,
за іхнія поспехі бяскрайне рад.
Адно непакоіць:
мае мудрагельствы
чамусь не выносяць ні сёстры, ні брат.

А што мне рабіць?
Не выходзіць іначай,
вучоныя тытулы пхаюць:
крутляй!
Крутляю.
Бывае, над крутлямі плачу.
А што накрутляў?..
Хоць з гарматы страляй...

## У ЗАБЫЦЦІ

*ХВЕДАР ЧЭРНЯ*

Усё забыта, перакрэслена,
Было ці, можа, не было?!

Надзеі выспеленай вернасці
Вялі мяне ў нязнаны свет.
Ва ўсім свае заканамернасці,
Як дзён мінулых запавет.

Але жыццю штоміг іначыцца
Наканавана на вяку.
Чым больш бядотна скрыпцы плачацца,
Тым болей радасці смыку.

А стрэнеш погляд скасавураны —
І растае натхнення міг,
Ідзеш ахмураны, ачмураны,
На ўсё абураны і ўсіх.

І ў танцах пхаешся ацесліва,
І вязка любых кос — сіло,
І ўсё забыта, перакрэслена,
Нібы і ў думках не было!..

# ЗБЯРЫЦЕ МЯНЕ

*ЯЎГЕН ШАБАН*

Разарваўся я на часткі
паміж горадам і вёскай.
Адна частка на спектаклі,
дзве прылеглі ля куста.
Адна сёмая на тэле,
дзевяць сотых за бярозкай,
Дзве пятнаццатых на печы
гладзяць рыжага ката.

Адзінаццатая частка
ходзіць з буслам каля рэчкі,
Сем сто шостых пішуць вершы
пра каханне і падман.
А яшчэ якаясь частка
безаглядна збегла ў грэчкі.
Хто ж збярэ мяне да кучы,
каб я зноўку стаў Шабан?..



## ВАГОНЫ І ВАРОНЫ

*СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ*

Плаўна коцяцца вагоны,
Наўздагон ляцяць вароны.

Кошык, нож, кашэль з абедам —
Па грыбы натхнёны еду.
Плаўна коцяцца вагоны,
Наўздагон ляцяць вароны.

Раз,
    два,
        тры,
            чатыры,
                пяць —
Дружна, зладжана ляцяць.
За воронаю варона
Праз патрэбны інтэрвал.
Над маім грыбным вагонам
Сапраўды воронні шквал.
Вунь сарокі на карчы
Спрытна лічаць: чы-чы-чы.
Толькі дзе стракаткам гэтым
Весці ўлік з-пад хвойных крон.
Мне з пісьменніцкім білетам
Не злічыць усіх варон.
Дык парайце, як мне быць:
Ці пакінуць, ці лічыць?

# НА ЎЛОННІ СУСВЕТУ

*Уладзімір Шыцік*

Уключыўшы пазасветавую хуткасць, Лісей з Вулькай на сваім аўтамотаэлектроналёце дасягнулі нарэшце планеты Сымонаўка, самай загадкавай з усіх планет, якія ім давялося наведаць за час бадзянняў у Сусвеце. Унутранае зандзіраванне планеты кібамі паказала, што на глыбіні 500 кіламетраў яна, як абалонкай, акружана сіняй энергетычнай паласой, пад якой жывуць таямнічыя амёбы. Час ад часу яны вылазяць на паверхню і, прагульваючыся, шпурляюцца каменнямі вагой у дзве тоны. Вулька ажно закрывала вочы ад жаху.

Даследаванні планеты цягнуліся бясконца. Нават кібы стамляліся да немажлівасці і ўсё гучней наракалі на свой незайздросны лёс. Толькі Лісей быў няўмольны: пакуль не зловім амёба, з месца не скранёмся.

Вулька працавала нястомна, ва ўсім давяраючы Лісею. Толькі ўсё часцей і часцей падступаў сум па Зямлі. Нарэшце яна не вытрымала і пачала прасіць хлопца ўключыць рэгенерацыйны апарат прасторы і часу. Той спачатку адгаворваўся занятасцю, але ўсё ж згадзіўся.

Пстрыкнуў уключальнік, і перад імі ў той жа момант вырасла купка бярозак, зводдаль лягло неглыбокае балотца. На ім зацвіла лотаць, заквакалі жабы. Над вухам зазвінелі камары. Прыляцеў аднекуль бусел і глынуў колькі жаб. Непадалёк віднелася аселіца роднай вёскі. Нават кібы прыпынілі работу і глядзелі як зачараваныя.

— Усё, на сёння хопіць, бо нормы не выканаем,— пачуўся раптам голас Лісея. Зноў шчоўкнуў уключальнік, замест роднага пейзажу — голая жоўта-бурая пустыня.

Вулька паклала на плячо лом і стомлена пайшла да кар'ера.

## СУМНЕННІ

*ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ*

Як за падманам,
За туманам
Іду павольна над ракой.

Усплёск заценёных адценняў
Зыначан чуйнай сумятнёй.
Я ў празе думных летуценняў
Іду сутоенай зямлёй.

Сплываюць кропелькі адчаю,
Знікаюць моракі начы.
Чаго ж, чаго трывожна, чая,
Галосіш, следам летучы?

Іду, штоміг туман гусцее,
Нібы пабелку разлілі.
Няўжо ж не збудуцца надзеі?
Няўжо задумы адцвілі?

# ЭПІГРАМЫ

## *На Алеся Адамовіча*

Няпраўды не напішам мы,
За сведку нам гісторыя,
Што ў час «Войны под крышамі»
Ён атрымаў «Вікторыю».



## *На Дзмітрыя Бугаёва*

Калі трэба адно слова,
Не давайце Бугаёву:
Дзвесце восем важкіх слоў
Скажа крытык Бугаёў.



## *На Рыгора Бярозкіна*

Ад слоў яго сярод паэтаў
Той мізарнеў, той падрастаў,
Бо нездарма ён сілуэты
Ў святле Купалы разглядаў.

## *На Вячаслава Адамчыка*

Усё: завулак, прыгуменне,
Прымак, падрадчык, біч, паркан,
Каханне, вернасць і падман —
Усё ў карычневым трымценні.
Відаць, з карычневым натхненнем
Пісаў Адамчык свой раман.

## *На Васіля Вітку*

Адбярыце прэнсы,
Адарвіце штрыфлі,—
Не шкада мне сэнсу
Дзеля гучнай рыфмы.

Адарвіце штрыфлі,
Пакарайце строга,
Ды гучнейшай рыфмы
Не знайсці ні ў кога.

## *На Аляксея Гардзіцкага*

За кімсьці штосьці запісаў,
Яшчэ ў кагось перапісаў —
І выдаў кніжку для цытат:
Цытатнік выйшаў — нарасхват!



## *На Анатоля Вялюгіна*

Гавару я не для зругі,
Гавару не першы:
— У кіно пайшоў Вялюгін
І забыў пра вершы.

## *На Паўла Дзюбайлу*

У крыўду не дае сябе,
Спрачацца з ім зусім не проста.
Ды што казаць, увесь СП
Трымае з Паўлам вуха востра.

## *На Віктара Каваленку*

Яму знаёма ўсё: актыўнасць,
Грунтоўнасць, доказнасць, тыповасць,
Непрадузятасць, аб'ектыўнасць,
Непрымірымасць, прынцыповасць.

## *На Галіну Каржанеўскую*

Пераацэнкі час цяжкі.
Яму няма канца і краю.
І я,
    дзе вершы,
    дзе сцішкі,
Пакуль не чотка разбіраю.

## *На Ніну Мацяш*

Кажу не дзеля гучнасці,
А шчыра, без прыкрас:
Яе дзявочай мужнасці
Мы дзівімся штораз.



## *На Максіма Лужаніна*

Максім усіх бярэ ў палон
Сваёю сілай звонкай:
Зямную кулю цягне ён,
Ажно трашчаць пастронкі.

## *На Валянціна Мысліўца*

Наш Мыслівец не знае стомы,
Расце ад тома і да тома
Як нарысіст урбаністычны,
Сямейна-меладраматычны.

## *На Івана Ралько*

Яму суджана долю мець шчасную
У суладдзі з прыват-катэгорыяй:
Ён адзін свае вершы ўласныя
Вымярае ўласнай тэорыяй.

## *На Адама Русака*

Прыціхлі палеткі, замерлі дубровы:
Цудоўная песня «Бывайце здаровы»...
Пара б табе, браце, з былым хваляваннем
Не горшую песню зладжыць пра спатканне.

## *На Льва Салаўя*

У мяне свая аснова,
Што там думаць ды гадаць;
Сэнс нязначны ведаць мову,
Трэба ўмець... перакладаць.



## *На Івана Навуменку*

Вось гэта будзе пакаранне,
Калі Навуменка Іван
Усе свае апавяданні
Перанавуміць у раман.

## *На Міхася Яроша*

Ці ж выпадкам так супала,
Што ў ім скрыжа-
                    валі-
                        ся
Шлях Чарота,
Шлях Купалы,
Шлях Яроша
                Міха-
                    ся.

ЗМЕСТ

*ПАРОДЫІ*

## *ЭПІГРАМЫ*

**Юрчанка Г.**

Ю 64 Парнаскія ўхабы: Пародыі, эпіграмы. — Мн.: Маст. літ., 1979.— 128 с., іл.

Гэты зборнік склалі творы, у якіх аўтар акцэнтуе ўвагу на індывідуальнасці стылю, асобных хібах у творчасці беларускіх пісьменнікаў і паэтаў.

Ю $\frac{70403-085}{М302(05)-79}$ 65—79 ББК 84 Бел 7

Бел 2

Георгий Федорович Юрченко

ПАРНАССКИЕ УХАБЫ

*Пародии, эпиграммы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак К. Н. Куксо. Мастацкі рэдактар Е. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. Р. Законнікава.

ІБ № 328

Здадзена ў набор 05.09.78. Падпісана да друку 11.05.79. АТ 01118. Фармат 70×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,60. Ул.-выд. арк. 3,86. Тыраж 5000 экз. Зак. 1570. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

